ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (12) сакавік 2012 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны

# ЛЮБОЎ ПЕРАМАГАЕ СМЕРЦЬ

**"Мы сабраліся ў росіцкай святыні, каб праслаўляць Бога і прасіць заступніцтва ў нашых штодзённых справах ублаславёных пакутнікаў Юрыя і Антонія. Гэтымі лютаўскімі днямі мы шукаем ласкі Бога, а гэтая ласка нарадзілася тут, у пакутах і веры канаючых людзей".**

**Кацярына Лаўрыненка**



З такімі словамі звярнуўся айцец Чэслаў Курэчка МІС, апякун Месца пакутніцкай смерці Бласлаўлёных, да шматлікіх пілігрымаў, святароў і законных сясцёр – да ўсіх тых, хто 18 лютага прыехаў у Росіцу, каб у чарговы раз ушанаваць подзвіг бласлаўлёных пакутнікаў айцоў марыянаў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Яны не пакінулі сваю паству, асуджаную на смерць нямецка-фашысцкімі захопнікамі, і, добраахвотна ахвяраваўшы сваім жыццём, былі спалены разам з каталікамі і праваслаўнымі з Росіцы і навакольных вёсак у лютым 1943 года.

З кожным годам пашыраецца геаграфія мясцінаў, з якіх пілігрымы прыязджаюць у Росіцу. Сёлета былі вернікі з Полацка, Наваполацка, Віцебска, Браслава, Мёраў, Дзісны, Глыбокага, Лучая, Расонаў, Бігосава, Друі, Верхнядзвінска, Шаркаўшчыны, Пеліканаў, Мінска, Барысава, Жодзіна і нават з Пінска. Разам з вернікамі ў Росіцу прыехалі айцы марыяне на чале з айцом правінцыялам Паўлам Наўмовічам МІС, які ўзначальвае Польскую правінцыю, Апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі архімандрыт Сергій Гаек, дыяцэзіяльныя святары, сёстры-эўхарысткі, сёстры-змёртвыхпаўстанкі. Сёстры-эўхарысткі, што, як адзначыў а. Чэслаў Курэчка МІС, "у тыя лютаўскія дні да апошняга служылі людзям у гэтай святыні", прыехалі ў Росіцу, каб закончыць свае шасцідзённыя рэкалекцыі і аднавіць веру і любоў да Бога і чалавека.

У снежні мінулага года касцёл у Росіцы адзначыў свой стагадовы юбілей. Урачыста гэтая падзея будзе адзначацца падчас летніх святкаванняў, але ўжо зараз а. Чэслаў узгадаў пра гэта і сказаў: "Дзякуй Пану Богу за гэтую святыню, дзе любоў перамагла смерць, дзе ёсць асаблівы дух малітвы, дзе з намі, са сваім народам і за нас моляцца бласлаўлёныя пакутнікі. У гэтыя дні Росіца прамаўляе па-асабліваму".

Святкаванне пачалося адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту. Па традыцыі ў сваёй прывітальнай прамове а. Чэслаў зачытаў некалькі ўрыўкаў з тых шматлікіх лістоў, што дасылаюць вернікі з усёй Беларусі ў Росіцу. Яны дзеляцца сваімі ўражаннямі пра наведванне Росіцы, выказваюцца, якую ролю ў іх жыцці адыгралі бласлаўлёныя пакутнікі. Дарэчы, у Росіцы заўсёды доўгія чэргі з тых, хто жадае скарыстацца з сакраманту пакаяння ў гэтым святым месцы. Вялізная колькасць пілігрымаў пакідае тут свае інтэнцыі, у якіх моляцца айцы марыяне праз заступніцтва бласлаўлёных пакутнікаў.

Галоўным цэлебрансам падчас Імшы быў генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі ксёндз пралат Францішак Кісель. Літургію ўпрыгожылі сваімі спевамі хор з Барысава пад кіраўніцтвам а. Вячаслава Пялінка МІС, які штогод прыязджае ў Росіцу. У сваёй гаміліі падчас Імшы айцец Павел Наўмовіч МІС, звяртаючы ўвагу прысутных на агонь на абразе з выявай пакутнікаў, адзначыў, што "першае значэнне гэтага агню – цярпенне, перaслед, несправядлівасць. У гэтым агні цярпення ёсць Божае святло. Бласлаўлёныя пакутнікі засталіся са сваімі парафіянамі, каб даваць ім любоў, паколькі мелі ў сабе іншы агонь – агонь любові Айца, з якога нараджаецца агонь любові да іншага чалавека. Гэты агонь любові дазваляе пакутнікам увайсці ў агонь цярпення. Нашыя два пакутнікі паказваюць на пэўны спосаб пакутніцтва – пакутніцтва, якое прыходзіць у дадзены момант". Далей ён адзначыў, што існуе і іншае пакутніцтва, якое адбываецца ў штодзённым жыцці. Як прыклад гэтага айцец правінцыял узгадаў постаць бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча, што аднавіў дзейнасць Кангрэгацыі марыянаў і чыё 25-годдзе з дня беатыфікацыі мы адзначаем сёлета.

Што прымушае шматлікіх пілігрымаў прыязджаць сюды, у Росіцу, у гэтыя марозныя лютаўскія дні, аддаючы свой вольны час, трацячы грошы на праезд? Што прымушае іх мёрзнуць у настылым касцёле, а таксама ісці ў працэсіі? Пра такі феномен Росіцы, не пабаюся гэтага слова, заўсёды ўзгадвае айцец Чэслаў. Ён расказаў: адзін чалавек вельмі здзіўляўся з таго, што пілігрымы прыходзяць сюды і ў 30-ціградусную спёку і ў 30-ціградусны мароз. І дадаў: "Тут сапраўды дзейнічае Бог і Ягоная ласка".

Рацыянальна гэта насамрэч цяжка растлумачыць. Успамінаецца аповяд аднаго клерыка, як некалькі гадоў таму ў Росіцу на жнівеньскія ўрачыстасці прыехалі замежнікі і вельмі здзівіліся, калі ўбачылі крывавыя мазалі адной з паломніц, што пераадолела амаль 300 кіламетраў, каб прыйсці у Росіцу. Навошта гэта, здзівіліся яны, на дварэ, між іншым, ХХІ стагоддзе. І толькі пабываўшы на месцы пакутніцкай гібелі блаславёных, яны зразумелі НАВОШТА.

"Тут я знаходжу спакой і радасць, тут і паплачу. Менавіта тут я чэрпаю свае сілы. Гэта як у спякотны летні дзень наталіць смагу", – кажа паломніца з Глыбокага.

Традыцыйна крыж, што ўзначальвае працэсію да месца пакутніцкай смерці блаславёных і іх паствы, нясе Канстанцін з Жодзіна. Ён сапраўды цяжкі гэты крыж, але ж крыж ніколі лёгкім не бывае. Людзі ў працэсіі заўсёды маўклівыя і засяроджаныя. Пэўна, не адзін з нас, ідучы гэтай дарогай, у думках узгадвае тыя далёкія падзеі і тых людзей. І той крыж, які, паводле ўспамінаў сведкі падзей Ганны Дзмітрыеўны Жураўлёвай, узяў айцец Юрый і пайшоў... А далёка па наваколлі разносяцца спевы: " Божа, ствары ўва мне чыстае сэрца"...

Заўсёды на развітанне айцец Чэслаў заклікае пілігрымаў пісаць, прыходзіць сюды, пакідаць тут свае інтэнцыі. І сапраўды, шматлікія пілігрымы не раз яшчэ будуць вяртацца ў Росіцу, у тое месца, дзе любоў перамагла смерць.

## Як прабачыць чалавеку?

Піша псіхолаг айцец Кшыштаф Коц'ян ОР на стар. 3



## Канфлікты ў сям'і

Парады каталіцкага псіхолага на стар. 4



## Як правесці нядзелю?

Піша сястра Марына Брылёнак на стар. 6



## Калі святар можа не адпусціць грэх?

Піша ксёндз Андрэй Кулік на стар. 7





## Слова ад рэдактара

Як часта мы праходзім міма цудаў і іх не заўважаем! Вір штодзённасці зацягвае нас, і так цяжка бывае ўбачыць звышнатуральнае! Чаму я ў гадавіну "Каталіцкага Весніка" кажу пра цуд? Таму што з'яўленне нашай газеты і яе развіццё менавіта так і расцэньваю. Для мяне гэта – Божы цуд, у якім мы прымаем удзел.

З удзячнасцю Госпаду Богу пішу гэтыя радкі. Яго Провід можа ўсё. Менавіта таму год назад удалося зарэгістраваць у Міністэрстве інфармацыі першую газету Віцебскай дыяцэзіі. Таму яе сённяшні тыраж складае 2500 асобнікаў, сярод якіх 20 працэнтаў распаўсюджваецца па падпісцы. Таму, нягледзячы на фінансавы крызіс, нам удалося выстаяць і працягваць выкананне свайго паклікання – несці Добрую Вестку. Таму газета атрымала рэгістрацыю ў Міжнароднай кніжнай палаце ў Парыжы і мае свой унікальны штрых-код.

Бог дае нам сваю ласку, спрыяе. Але мы ведаем, што на небе не сядзяць друкары. І там няма камп'ютараў, на якіх працуюць аўтары і карэктары газеты. Таму як рэдактар хачу выказаць сваю чалавечую і святарскую ўдзячнасць тым, хто аддана працуе над выданнем. Калі ў мяне пытаюцца пра нашу рэдакцыю, я жартую: наша рэдакцыя – гэта ўсе каталікі Віцебшчыны. Шмат у гэтым жарце праўды.

Дарагія сябры, дзякуй вам за цікавасць да газеты, за вашыя рукапісы і фотаздымкі, за вашыя тэлефанаванні, парады і падказкі. А што б мы рабілі без вашых ахвяраванняў?.. За год існавання газеты нам фінансава дапамаглі 66 чалавек! Таму я бязмерна вам удзячны. Шчыра дзякую таксама і тым, хто даслаў свае ахвяраванні гэтым разам: Валянціне Піваварун (в. Скарпоўцы, Пастаўскі р-н), вернікам з парафіі ў Ваўкалаце, Станіславе Смірновай (г.п. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), Казіміру Ляшчэвічу (ст. Параф'янава, Докшыцкі р-н), Гэнавефе Дубіловіч (в. Муляры, Пастаўскі р-н), Аліцыі Трафімовіч (г. Паставы), Яніне Лоўкіс (в. Цябуты, Пастаўскі р-н). Малюся за вас кожную першую суботу месяца, адпраўляючы Святую Імшу.

Браты і сёстры! Я перакананы: калі ў газеты ёсць такія чытачы, ніякія цяжкасці нам нястрашныя. З дапамогай Божай ласкі мы сустрэнем не адзін наш юбілей. Жадаю ўсім вам здароўя, Божага благаслаўлення і суладдзя. Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў вашым доме!

*Кс. Віктар Місевіч, галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка"*

# Сведкі веры

**4 сакавіка 2012 года спаўняецца 70 гадоў з дня мучаніцкай смерці бласлаўлёных кс. Мечыслава Багаткевіча, кс. Уладзіслава Мацьковяка і кс. Станіслава Пыртака.**

**Алена Пажога**



**На здымку:** вернікі з ксяндзом Мечыславам Янчышыным моляцца каля помніка благаславёным ксяндзам 4 сакавіка 2011 года. *Фота Зміра Лупача*

**Ксёндз Мечыслаў Багаткевіч** нарадзіўся ў 1904 г. Падчас акупацыі быў пробашчам у Дрысе. Набыў вядомасць сваімі палымянымі гаміліямі і міласэрнасцю да бедных. Быў арыштаваны гестапа за душпастырскае служэнне і праз два месяцы, 4 сакавіка 1942 г., расстраляны ў Беразвеччы каля Глыбокага разам з двума іншымі святарамі: кс. Уладзіславам Мацьковякам і кс. Станіславам Пыртакам. Перад смерцю ў лісце да маці і родных кс. Багаткевіч напісаў: "Не плачце па мне, а радуйцеся, што ваш нашчадак і брат здаў экзамен. Прашу вас толькі аб малітве. Усім маім ворагам прабачаю з усяго сэрца, хацеў бы ўсім ім выслужыць неба".

**Ксёндз Уладзіслаў Мацьковяк** нарадзіўся ў 1910 г., быў пробашчам парафіі ў Іказні. За адданую душпастырскую дзейнасць гестапа ў Вільні прысудзіла яго да пакарання смерцю. Ён быў папярэджаны пра небяспеку, аднак добраахвотна вырашыў застацца ў парафіі, каб і надалей служыць вернікам. Быў арыштаваны 3 снежня 1941 г., а 4 сакавіка 1942 г. расстраляны ў Беразвеччы. Перад смерцю на вокладцы Брэвіярыя напісаў да свайго біскупа: "Іду скласці апошнюю ахвяру ў сваім жыцці. Праз 3 гадзіны стану перад Панам... Радуюся, што Бог выбраў мяне, а больш за ўсё, што дае ласку і моц".

**Ксёндз Станіслаў Пыртак** нарадзіўся ў 1913 г., быў вікарыем парафіі ў Іказні, дзе служыў пробашчам кс. Мацьковяк. Смяротны прысуд таксама атрымаў за душпастырскае служэнне. Быў арыштаваны, калі пайшоў у паліцыю, каб заступіцца за забранага гестапа пробашча. Разам з ім і быў расстраляны ў Беразвеччы 4 сакавіка 1942 г. Непасрэдна перад расстрэлам святар напісаў сваім родным: "Некалькі гадзінаў аддзяляе мяне ад нічым не заслужанай смерці. Абавязак святара — скласці і гэтую ахвяру за Хрыста. Паміраю за навучанне рэлігіі. Не плачце і не сумуйце па мне. Пасылаю вам святарскае блаславенне. Пасля трох месяцаў вязніцы радуюся, што я годны цярпець і паміраць".

Перад расстрэлам асуджаныя на смерць святары ўсклікнулі разам: "Няхай жыве Хрыстус!"

13 чэрвеня 1999 года ксяндзы-мучанікі былі ўзнесены да хвалы алтара Папам Рымскім Янам Паўлам II.

### СВЕДКІ ВЕРЫ

*Сведкі веры, сябры Хрыстовы,*
*Вы разарвалі страху аковы.*
*Сэрцы вашы кулямі прабіты,*
*Вашы ахвяры Богам не забыты.*
*Была на тое Божая воля,*
*Каб асвяціліся мукамі, болем.*
*Сакавіцкай ноччу 42-га*
*Рыхтавалі душы да сустрэчы з Богам.*
*У момант смерці на краі магілы*
*Выгукнулі разам з апошняе сілы:*
*"Хай жыве заўсёды Хрыстус Валадар!"*
*Жыццё маладое склалі Богу ў дар.*
*Цяпер у небе перад тварам Пана*
*Нас уратуйце ад злога шатана.*
*Дарогай веры слабых вядзіце,*
*Ласкі навяртання для грэшных прасіце.*

***Алена Пажога***

# НЕ КРАДЗІ!

**Настаў час Вялікага Посту – час пакаяння і духоўнага ачышчэння. Кожны з нас павінен, а мабыць, і падводзіць асабісты рахунак сумлення. Няма беззаганных людзей, у кожнага свае грахі, слабасці. Толькі трэба ўсё ж набрацца мужнасці і прызнаць сваю віну, папрасіць прабачэння ў чалавека, якога пакрыўдзілі, і ў Пана Бога. Калі пакаянне шчырае, то Усявышні заўжды даруе нам, бо Ён міласэрны.**

Адна з галоўных Божых запаведзяў – "Не крадзі!". На вялікі жаль, знаходзяцца людзі, якія парушаюць гэтае патрабаванне.

Знаёмая, што працуе ў гарадскім універсаме, расказала такую гісторыю. Хтосьці з пакупнікоў падказаў кантралёру-касіру звярнуць увагу на старэнькую бабульку. Калі яна падышла да касы, каб заплаціць за пакет малака, які трымала ў руках, яе папрасілі расхінуць куртку. Пад курткай аказалася тушка курыцы. Калі прагледзелі запіс відэакамеры, то высветлілася, што гэтая ж асоба такім чынам шмат разоў "залазіла ў кішэню"да тых людзей, якім потым даводзілася плаціць са сваёй зарплаты. Магчыма, бабулька сапраўды знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы, але ж хіба можна такім чынам яго паправіць?! (Дарэчы, супрацоўнікі магазіна пашкадавалі яе і прабачылі ёй).

Другі прыклад на гэтую ж тэму. Тэлевізійная карцінка з пераднавагодняга выпуску навінаў: спілаваная 40-гадовая прыгажуня-елка без верхавіны, бо тая вельмі ўпрыгожыла чыюсьці кватэру. Але ж лес – наша агульная маёмасць, наша багацце, значыць, абакралі нас усіх! Ды што лес, калі для падобных асоб не існуе нічога святога, бо спакусіліся на маёмасць, якая знаходзіцца на тэрыторыі касцёла...

Не заўсёды ўдаецца схапіць за руку злодзеяў падчас іх "подзвігаў", ды і суд наш гуманны (у некаторых краінах за крадзеж адсякаюць пальцы ці нават руку). Але ж ёсць яшчэ Вышэйшы Суддзя, перад якім кожнаму давядзецца спавядацца.

***Аліцыя Трафімовіч,***
*г. Паставы*

## Дзякуй Вам, сястра Мар'яна!

*Я разам з сябрамі хаджу на ўрокі рэлігіі, якія праводзіць сястра Мар'яна Гроць з Варапаева. Мне падабаюцца гэтыя ўрокі, бо сястра праводзіць іх цікава. Я і мае сябры вывучаем Біблію, пазнаём жыццё з Панам Богам. Дзякуй Вам, сястра Мар'яна!*

*Таксама мне спадабаўся летнік у Пятроўшчыне. Там я з сябрамі пабываў дзякуючы сястрэ Мар'яне. У летніку нам вельмі спадабалася, там пазнаёміліся з іншымі дзецьмі. Кожны дзень супольна маліліся, спявалі песні, хадзілі на возера купацца. Час праляцеў хутка. Хачу падзякаваць усім, хто нас смачна карміў, абслугоўваў, цікава арганізоўваў наш адпачынак.*

***Лёша Емяльянаў,***
*в. Дунілавічы*

# Слова пра маці

*Што б у жыцці маім ні адбылося,*
*Што б ні давялося мне спазнаць,*
*У душы навечна засталося*
*Роднае, жывое слова – Маці.*

Маёй маці ўжо колькі гадоў, як няма з намі, але яна заўсёды ў нашай памяці, бо ўсё добрае, што ёсць у нас, яе дзецях, ад яе. Наша мамачка была вельмі працавітай і пабожнай, любіла чысціню, парадак і кветкі. Першы ўспамін далёкага дзяцінства: усе жыхары вёсачкі збіраліся ў нашай хаце, каб разам адмаўляць Маёвае набажэнства, прысвечанае Маці Боскай, бо касцёл быў далёка, у Мосары. Мы, малыя дзеці, пыталіся ў дарослых: "Чаму Матка босая?" Наша мамачка тлумачыла нам, што там, дзе нарадзілася і жыла Панна Марыя, заўсёды цёпла, то і абутак не патрэбны.

Жыццё ў мамы было нялростым: тры гады батрачыла ў Нямеччыне, пасля вайны цяжка працавала ў калгасе, часта хварэла. Але ніколі не скардзілася, не гнявіла Пана Бога. Нас, траіх дзяцей, выхавала годна: прывіла любоў і павагу да Пана Бога, Касцёла і малітвы, навучыла паважаць людзей, быць міласэрнымі і ўмець дараваць. Мама заўсёды прыводзіла нам у прыклад Найсвяцейшую Панну Марыю. Мы павінны вучыцца ў Яе любові, пакоры і міласэрнасці. Яна – ідэал, да якога мы павінны імкнуцца. З нагоды ўрачыстасці Звеставання НПМ варта было б зрабіць рахунак сумлення: ці выканалі наказы нашых маці, ці з'яўляемся годнымі дзецьмі Маці Божай і нашай Маці?

***Аліцыя Трафімовіч,***
*г. Паставы*

# Знак маёй свабоды



■ а. Кшыштаф Коц'ян ОР

**Як хрысціяне мы пакліканыя прабачаць. Гэта цяжка ўсвядоміць, але дараванне здольнае прынесці аздараўленне і вызваленне. Таму пакуль ува мне няма гатоўнасці прабачаць, я не толькі не магу быць сапраўдным вучнем Езуса, але перадусім рызыкуюператварыць сваё жыццё ў нешчаслівае існаванне.**

Нягледзячы на тое, што рашэнне прабачыць часам складанае ці проста гераічнае, калі мы не прымем яго, не будзем мець супакою і радасці. У гэтым ёсць пэўны парадокс. Можа аказацца, што мы будзем двойчы пакрыўджаныя. Першы раз – сваім крыўдзіцелем, другі – самімі сабою.

Нярэдка бывае, што хтосьці пачынае будаваць сваё жыццё вакол крыўды, якую яму нанеслі. Толькі яе ён прымае ў разлік, усё іншае траціць сэнс. Яшчэ можа з'явіцца прага помсты. Жывучы нянавісцю, я дазваляю, каб маё жыццё напаўняла злосць. А гэта забівае душу. Прагнучы знішчэння свайго крыўдзіцеля, я станаўлюся падобным да д'ябла ў гэтым сваім жаданні, да забойцы. Тым самым я нішчу ў сабе падабенства да Бога, які прагне збаўлення ўсіх людзей. Таму прабачэнне – адзіны шлях, што дазваляе вырататаваць сваё сэрца ад досведу зла.

...прабачэнне – адзіны шлях, што дазваляе вырататаваць сваё сэрца ад досведу зла.

Цяпер варта паразважаць над тым, што такое прабачэнне. Гэта – маё рашэнне, што зло, якое я перажыў, не будзе мною кіраваць, што памяць пра яго не будзе воссю майго жыцця. Гэта рашэнне, што я не буду з нянавісцю ставіцца да чалавека, які мяне пакрыўдзіў, не буду жадаць яму зла, а толькі дабра. Таму прабачэнне – знак маёй свабоды. Так, я параненены, мне вельмі балюча. Але я нязгодны, каб гэтыя раны ўплывалі на маю волю. Я хачу быць падобным да Бога, "які не хоча смерці грэшніка, але каб адвярнуўся ад шляху свайго і жыў" (пар. Эзх. 33, 11). Таму я не хачу ненавідзець, а хачу любіць. Прабачэнне – мая перамога над злом: я не дазваляю, каб перажытае зрабіла мяне злосным.

Прапаную вам адну практычную параду. Нам часта здаецца: прабачэнне азначае, што нам ужо не балюча, што ўжо "няма справы". Зусім наадварот. Чалавек – гэта духоўнае, псіхічнае і фізічнае адзінства. Калі, напрыклад, мне зламалі руку, зразумела, што прабачэнне не зробіць, каб рука адразу зажыла. Тое самае адбываецца з ранамі на ўзроўні псіхікі – з прабачэння не вынікае, што шкоды ўжо няма, што мне ўжо не баліць, што не з'явяцца злосць ці іншыя негатыўныя эмоцыі. Іх з'яўленне – норма, і гэта зусім не азначае, што я не прабачыў. Дараванне адбываецца на ўзроўні вырашэння, а не пачуццяў або адчуванняў. Вось адны з найбольш мудрых словаў, сказаных аб прабачэнні: "забудзься, бо прабачыў, а не прабач, бо забыўся". Каб раны загаіліся, патрэбны час. Гэты час – складаны і небяспечны, час сапраўднай духоўнай барацьбы, нярэдка немагчымай для чалавечых сілаў. Гэтая барацьба – у тым, каб, пакутуючы, не пачаць ненавідзець. Таму на такім шляху трэба заўжды прасіць дапамогі ў Бога – Ён заўжды ўмацуе нас у цяжкую гадзіну.

Другая практычная парада датычыць чалавека, якому я прабачаю. Я вырашаю ставіцца да яго з любоўю. Што гэта азначае? Што я жадаю яму дабра, а гэта не значыць, што я хачу, каб у гэтага чалавека ўсё адбывалася, як ён гэтага прагне. Я перадусім хачу, каб ён мог навярнуцца, узрастаць у добрым і атрымаць збаўленне. Таксама я хачу, каб ён сышоў з дрэннай сцежкі. Таму тое, што я прабачыў злодзею, не значыць, што я не павінен перашкаджаць яму красці і не выклічу міліцыю. Таму тое, што я прабачыў, не азначае, што я не маю права на пакрыццё стратаў і кампенсацыю. Магчыма, я павінен гэтага дабівацца, аднак не варта ставіць прабачэнне ў залежнасць ад адплаты, інакш гэта зноў зняволіць мяне і маё прабачэнне будзе залежаць ад некага іншага.

Іншая справа – ізноў будаваць адносіны з чалавекам, які мяне параніў. Я не мушу гэта рабіць. Тое, што я як хрысціянін павінен любіць кожнага чалавека, не значыць, што я з кожным мушу мець блізкія стасункі. Любоў, міласэрнасць і прага дабра для кагосьці не значыць, што ён – мой верны сябра.

Калі чалавек, якому я прабачыў, сам не змяніў сваё жыццё, я не абавязаны і нават не павінен мець з ім блізкіх стасункаў. Прабачэнне не азначае, што я не маю права абараняцца. З іншага боку, калі мой крыўдзіцель убачыў свае памылкі і прыняў пастанову змяніцца, я павінен быць велікадушным. У рашэнні даравань у самым канцы знаходзіцца згода адбудоўваць адносіны, калі не тут, на зямлі, то ў вечнасці, дзе Бог вытра слёзы з кожнага твару.

Вялікі пост – час, калі мы асаблівым чынам пакліканыя прабачаць. Варта ісці гэтым шляхам, варта вучыцца прабачаць. Здольнасць быць міласэрнымі да тых, хто вінаваты перад намі, мае ў сабе яшчэ адзін плюс. Чым больш мы будзем здольныя прабачаць іншым, тым больш будзем здольныя даравань сабе і паверыць у Божае прабачэнне.

# БОЖЫ "ВІНАГРАДНІК"

**У аршанскай парафіі святога Юзафа 3 сакавіка 2012 г. адбыўся "Вінаграднік". Што гэта такое? "Вінаграднік" – гэта малітоўная сустрэча, бо нават у самім Евангеллі напісана: "Езус ёсць вінаградны куст, а мы яго галіны".**

■ **Юлія Мілашэўская**, тэкст; **Дарык Астасевіч**, фота

Коратка:

Дзень распачынаем раніцняй малітвай;

Канферэнцыі;

Сустрэча ў невялікіх групках, дзе можна дзяліцца асабістым меркаваннем;

Найсмачнейшы абед (адпаведна і вячэра);

Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта;

Святая Імша;

І на заканчэнне – заступніцкая малітва і малітва праслаўлення.

На працягу ўсяго дня мы разважалі на тэму "Стань у праўдзе перад сабой".

Такія спатканні адбываюцца не першы раз. Вось як перажылі яго некаторыя ўдзельнікі:

**Юлія, Мінск:**

– Стаць у праўдзе перад сабой даволі часта нам перашкаджае наш уласны страх. Таму мяне моцна кранулі словы падчас канферэнцыі: "страх прыходзіць, калі нечага чакаеш!" І праўда, бо калі ўжо сутыкаешся з цяжкасцямі тварам у твар, калі ўжо як на далоні бачыш сваю праблему, то страх знікае.

Дзякуючы "Вінаградніку" пачула моцныя словы: "Кожны раз здавайся перад крыжом!" Калі награшыў і правініўся перад Богам, то не апраўдвайся ты, проста маўчы перад Айцом і прасі прабачэння…

**Дарык, Мінск:**

*"Я есть виноградная лоза, а Отец Мой – виноградарь" (Ян.15:1).*

– Каждый раз, когда приезжаешь на эти встречи, под этим истинно библейским названием, уезжать оттуда неохота. Бог там через своего верного слугу, которого зовут отец Александр, действует с огромной силой. В Орше это видно с самого первого момента, когда твоя нога ступает на перрон железнодорожного вокзала, тебя уже с радостной улыбкой встречает этот замечательный человек. В самом костёле и доме проведения реколлекций тебя рады видеть: накормят, напоят и спать уложат. Всё как дома, плюс у тебя есть возможность молится 24 часа в сутки без остановки в каплице, сколько хочешь, и это замечательно! Бог и ты!!! На следующий день ты можешь спать сколько угодно, но пропускать молитву не позволяет совесть, она даже сама тебя будит, ведь Бог настолько близко, и тебе нужно только встать с кровати… Конференции, которые никого не оставляют равнодушным, лишь только увеличивают и насыщают чувство жажды познания Бога!!! Есть такой пункт реколлекций, как группки. Ты можешь рассказать людям о своих переживаниях по поводу Бога, о Его делах в твоей жизни, зная, что тебя поймут, что не всегда ты сможешь сделать среди друзей, близких и даже родных."



**Таму шчыра запрашаем цябе 14 красавіка на наступны "Вінаграднік".**

Дадатковая інфармацыя: а. Аляксандр Жарнасек 8(029) 7130233, г. Орша, вул. Савецкая, 6.

# АБНАЎЛЕННЕ

■ **Вікторыя Колзун**

Як часта вы абнаўляеце антывірусную праграму на сваім камп'ютары?

Вірус – гэта злачынец, які псуе работу вашага камп'ютара, вельмі хутка множыцца і разносіць хваробу паўсюль. Некаторыя вірусы могуць беззваротна пашкодзіць файлы аперацыйнай сістэмы, пасля чаго яна будзе працаваць некарэктна альбо не будзе ўвогуле. Каб гэтага пазбегнуць, трэба часцей абнаўляць антывірус. Так і з нашым хрысціянствам: каб грэх не псаваў нашую "сістэму", а значыць, працу душы, розуму, сэрца і сумлення, трэба як мага часцей абнаўляць сваё духоўнае жыццё.

Слова "абнаўленне" – пераклад грэцкага назоўніка "метанойя" (μετάνοια), і акрамя першаснага значэння, мае і іншыя: перамена, абнаўленне розуму і думак, а ў біблійнай традыцыі – яшчэ і пакаянне.

Навошта сучаснаму чалавеку перамена думак, розуму, калі кожны з нас хоча думаць толькі так, як падабаецца яму, кожны з нас змагаецца за свабоду сваіх думак і свабоду свайго слова?!

У хрысціянскім разуменні перамена думак і розуму – гэта штосьці іншае, больш глыбокае…

Абнавіць розум – гэта не толькі падчас Вялікага Посту пайсці да споведзі і пералічыць свае грахі, адмовіцца ад карыстання сацыяльнымі сеткамі, прытрымлівацца нейкай асаблівай поснай "дыеты", не ўжываць алкаголь, вымагаць ад сябе добрых учынкаў. Безумоўна, дзякуючы гэтаму перамены адбываюцца, але гэта толькі сродкі, на гэтым абнаўленне нашага жыцця не заканчваецца. Пост не павінен быць адзіным выключным часам, калі мы прысвячаем сябе, свой вольны час Богу. Не можа быць асобнага часу для душы і асобнага для цела. Нельга падчас посту жыць "для Бога", а пасля – жыць "для сябе".

Штодзённае жыццё чалавека з'яўляецца адлюстраваннем яго пакаяння. Кожны момант жыцця мае свой духоўны сэнс. Часам нашыя дрэнныя ўчынкі, грахі становяцца нашымі звычкамі, носім іх ад канфесіянала да канфесіянала, нічога не змяняючы. Несвядома мы паўтараем адны і тыя ж дзеянні, памылкі ў адносінах да сябе і да іншых людзей. Гэта такое замкнутае кола нашага штодзённага жыцця.

Абнаўленне свядомасці ў гэтым сэнсе – абнаўленне нашага хрысціянскага жыцця: жаданне пазбавіцца ад грахоўнага бруду, магчымасць стаць у праўдзе перад самім сабой і аб'ектыўна праз прызму хрысціянскай веры паглядзець на сваё жыццё. Важна, каб адбывалася змена нашага чалавечага розуму, які, адварочваючыся ад цемры граху, захацеў убачыць свет чысціні і святасці. Час посту ў жыцці хрысціяніна – гэта радасны час, у цішы якога мы можам прыйсці да жадання перамены нашага жыцця, розуму. Пакаянне – гэта заўсёды вяртанне да Айца Нябеснага. Так як добры айцец чакаў вяртання марнатраўнага сына і радаваўся яго навяртанню, так і Бог чакае перамены розуму кожнага з нас, чакае нашага навяртання…

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №3(12) сакавік 2012 г.

# ТВАЯ СЯМ'Я – ТВАЯ МОЦ

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**Часта ў сем'ях людзі сутыкаюцца з рознымі праблемамі ў адносінах адно з адным. У гэтым нумары псіхолаг Людміла Нячай адказала чытачам "Каталіцкага Весніка" на некаторыя пытанні, звязаныя з сямейным жыццём.**

**– Скажыце, Людміла, што павінен выбіраць чалавек: грамадзянскі шлюб альбо сакрамант сужэнства?**

– Напачатку трэба ўдакладніць паняцце "грамадзянскага шлюбу". Раней пад "грамадзянскім" уяўлялі шлюб, які быў зарэгістраваны толькі органамі ўлады. Сёння грамадзянскім шлюбам называюць зусім супрацьлеглую форму адносін мужчыны і жанчыны. Яшчэ ў Старажытным Рыме побач з законным шлюбам быў распаўсюджаны такі сацыяльны інстытут, як канкубінат – неафіцыйнае сужыцельства мужчыны і жанчыны. Прычынай такога саюзу з'яўлялася класавая і палавая няроўнасць. Але сёння гэтыя прычыны ці актуальныя? Чым кіруюцца пары, калі згаджаюцца на такі саюз?

Псіхологі сцвярджаюць, што за жаданнем жыць у грамадзянскім шлюбе (сужыцельстве) можа хавацца няўпэўненасць чалавека ў сабе ці ў "другой палове", якая часта фарміруецца пасля перанесенай раней псіхалагічнай траўмы (здрада, расчараванне, смерць каханага чалавека і інш.) альбо страху, звязанага з магчымасцю яе наступлення. Можа быць і так, што адна асоба ў такім саюзе шчыра хоча сапраўдных, сур'ёзных адносінаў і спадзяецца на тое, што ў будучым грамадзянскі шлюб стане афіцыйным. А другая асоба гэта проста выкарыстоўвае ў сваіх мэтах.

> **Сямейная здрада – не толькі цяжкі грэх, але і вялікі боль для блізкай асобы.**

Зусім інакш сітуацыя выглядае ў сакрамантальным сужэнстве. Згаджаючыся на сужэнства ў касцёле, мужчына і жанчына перад Богам даюць клятву сапраўднага кахання, свядома бяруць на сябе адказнасць адно перад адным: быць побач, што б ні здарылася аж да самай смерці... Яны дапускаюць у свой саюз Бога, які дапамагае сужэнцам пераадолець усе жыццёвыя цяжкасці і сямейныя праблемы. А іх часта бывае шмат, і толькі людскімі сіламі гэта не вырашыць.

**– А ці ўмацоўваюць дзеці сям'ю?**

– Можна было б сказаць, так: з'яўленне дзяцей робіць сям'ю сапраўды паўнавартаснай. Нараджэнне дзяцей – гэта новы, неабходны этап развіцця сям'і, да якога трэба падрыхтаваць абоім сужэнцам і псіхалагічна, і фізічна, і духоўна. Але нельга выкарыстоўваць дзіця для вырашэння розных сямейных праблем. Напрыклад, часта бывае, што з нараджэннем дзіцяці жонкі хочуць "утрымаць" каля сябе мужа, замест таго каб паспрабаваць вырашыць сужэнскія праблемы. У выніку, мужчына, можа, і застаецца ў сям'і дзеля выхавання дзяцей, але адносіны з жонкай могуць яшчэ больш пагоршыцца. Таму можна сказаць, што дзеці ўмацоўваюць сям'ю, але не вырашаюць яе праблем.

> **...дзеці ўмацоўваюць сям'ю, але не вырашаюць яе праблем.**

**– Часта кажуць: муж – галава, а жонка – шыя. Ці можна пагадзіцца з гэтым сцвярджэннем?**

– У здаровых сямейных адносінах муж павінен узяць на сябе ролю "галавы сям'і". Гэта вялікая адказнасць для мужчыны, бо ён бярэ на сябе функцыю члена сям'і, які добра распараджаецца ўладай і прымае канчатковыя рашэнні. Таксама мужчына павінен паклапаціцца пра бяспечнасць кожнага члена сям'і, пра добрыя ўмовы для развіцця сям'і, удзельнічаць у выхаванні дзяцей і быць для іх прыкладам сапраўднага хрысціяніна. Жонка, у сваю чаргу, павінна стаць для свайго мужа мудрым дарадчыкам і, калі ўзнікне неабходнасць, дапамагаць яму ў вырашэнні розных сямейных пытанняў. Але ў тым і заключаецца мудрасць жонкі, што яна павінна вельмі асцярожна накіроўваць свайго мужа ў добрым напрамку, без націску і жадання заняць месца "галавы".

**– "Жонка не сцяна, пасунецца"... Некалькі слоў пра сямейную здраду.**

– Сямейная здрада – не толькі цяжкі грэх, але і вялікі боль для блізкай асобы. І гэта праблема датычыцца не абавязкова жанчын, але і мужчын таксама, бо жонкі здраджваюць не менш за мужоў. Думаю, што як і любое здарэнне ў сям'і, здрада мае свае прычыны. Пералічу некаторыя з іх. Па-першае, прычынай здрады можа быць незадаволенасць сямейнымі адносінамі. Вельмі папулярны прыклад: жонка часта крытыкуе, "пілуе" мужа, і ён пачынае шукаць добрых адносінаў "на баку". Другая прычына – заўздрасць альбо помста за здраду жонкі (мужа). Трэцяй прычынай можа быць цяга да іншай асобы, пошук новых адчуванняў.

Можа быць і так, што адзін з сужэнцаў на доўгі час павінен выехаць па справах працы. У выпадку доўгага расстання мужчыны здраджваюць часцей. Але якімі б ні былі прычыны здрады, як правіла, яны заканчваюцца расчараваннем і стратай даверу да каханага. У пакрыўджанага боку часцей за ўсё адразу ўзнікае жаданне развесціся.

Варта задаць сабе пытанне: чаму так адбылося? Ці ёсць у гэтым здарэнні мая віна? Таксама трэба абавязкова пагаварыць са сваім сужэнцам, разабрацца, чаму ён гэта зрабіў. І як бы цяжка ні было, пастарацца прабачыць.

**– Усё больш актуальнай становіцца праблема алкагалізму сярод мужчын. Здараецца так, што муж п'е, а жонка церпіць. Якія прычыны і праблемы можам вылучыць у такой сітуацыі?**

– На жаль, на сённяшні дзень з гэтай праблемай сутыкаюцца многія сем'і. А ці робяць яны штосьці, каб яе вырашыць? Невядома. Хіба што часцей за ўсё згаджаюцца з абставінамі і "нейк" жывуць, церпяць і скардзяцца на цяжкі лёс...

Звярнуся да традыцыйных прычын злоўжывання алкаголем, хоць яны могуць быць розныя. Нехта з дапамогай алкаголю "змагаецца са стрэсам", бачыць у ім адзіны спосаб, каб расслабіцца. Іншыя заглушаюць свае ўнутраныя праблемы і не імкнуцца вырашыць іх. Трэцція вельмі лёгка паддаюцца дрэннаму ўплыву кампаніі. Не могуць адказаць "не, мне хопіць". Усе гэтыя і іншыя прычыны звязаны з праблемамі "асобы" залежнага чалавека, якому патрэбна дапамога блізкіх.

> **Без узаемнага даверу нельга стварыць моцную сям'ю.**

І калі блізкія не спраўляюцца самастойна, варта звярнуцца да спецыялістаў, якія працуюць з залежнымі ад алкаголю людзьмі. Аднойчы я чула пра супольнасць "Cenacolo", якая займаецца дапамогай людзям зрознымі формамі залежнасці. У гэтай супольнасці яны шмат моляцца, працуюць, вучацца сябе кантраляваць, змагацца са слабасцямі. На сённяшні дзень такая супольнасць працуе ў Польшчы, Італіі. Было б цудоўна, каб яна таксама была створана і ў нашай краіне.

**– Людміла, дайце, калі ласка, пару парад для сужэнцаў.**

– 1. Вучыцеся адкрыта размаўляць на розныя тэмы, нават вельмі балючыя, цяжкія. Будзе надзвычай добра, калі Ваш каханы чалавек зможа адчуць падтрымку і разуменне з вашага боку.

2. Дапамагайце адно аднаму! Рабіце як мага больш спраў РАЗАМ!!!

3. Шануйце адно аднаго! Падкрэслівайце вартасць Вашага каханага не проста як чалавека, а як важнай для вас асобы і індывідуальнасці.

4. Старайцеся больш падкрэсліваць добрае ў Вашым сужэнцу, а не крытыкаваць. Але калі Ваш муж (жонка) зрабілі нешта дрэннае, то крытыкуйце не самога чалавека, а яго ўчынак.

5. Давярайце адно аднаму! Без узаемнага даверу нельга стварыць моцную сям'ю.

6. Будзьце вернымі свайму мужу (жонцы).

7. Прабачайце! Ніхто не ідэальны, і кожны можа зрабіць памылку. Даравацьчасам вельмі цяжка. Але варта пастарацца зразумець і даць іншаму чалавеку шанс на выпраўленне.

Гэтыя пункты ( і тыя, што вы ў сваіх думках дадалі самі) можна аб'яднаць адным правілам: КАХАЙЦЕ АДНО АДНАГО! І ва ўсе свае справы запрашайце Бога. Бо толькі разам з Ім можна стварыць сапраўды моцную і шчаслівую сям'ю!!!

# Духоўная барацьба

**кс. Тадэвуш Дабравольскі SDS**

**Хрысціянскае жыццё рознабаковае, і кожны з яго элементаў важны.**

Адзін з іх – духоўная барацьба, якую павінен весці кожны сапраўдны хрысціянін. Ігнараванне гэтага з'яўляецца сур'ёзнай небяспекай для веры. Бл. Ян Павел ІІ звяртаў увагу на наступныя сродкі ў духоўнай барацьбе: малітва, сакраманты, пост, уважлівае чытанне Св. Пісання і чуванне.

У часе чарговай малітоўна-фармацыйнай сустрэчы, арганізаванай у межах "Школы Духоўнай Фармацыі", якая адбылася з 24 па 26 лютага 2012 г. у кляштары сясцёр-эўхарыстак у Браславе, вернікі мелі магчымасць паразважаць менавіта на тэму духоўнай барацьбы. Канферэнцыі праводзілі кс. Аляксандр Жарнасек МІС і кс. Тадэвуш Дабравольскі SDS.

Удзельнікі сустрэчы даведаліся таксама пра тое, як планаваць свой час, пра спосабы барацьбы са спакусамі, пачулі пра біблейскія прыклады духоўнай барацьбы і пра разнастайныя праявы дзейнасці злога духа.

Важнай часткай сустрэчы была малітва, якой спрыяла атмасфера маўчання і цішыні. Існавала таксама магчымасць індывідуальных размоваў і споведзі. На заканчэнне ўдзельнікі атрымалі бласлаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам. У спатканні прыняло ўдзел каля 30 чалавек з Віцебскай і Гродзенскай дыяцэзій і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Рыхтуецца дыск з запісам канферэнцыі з гэтых рэкалекцый.

Сёлета плануецца яшчэ некалькі сустрэч. Наступная на тэму "Сузіранне ў фарбах. Ікона ў хрысціянскай духоўнасці" адбудзецца 18–20 мая. Яе правядзе а. Зміцер Грышан, настаяцель грэка-каталіцкай парафіі ў Віцебску.

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

**Ці здараюцца канфліктныя сітуацыі паміж бацькамі і дзецьмі? І як пазбягаюць сварак з блізкімі людзьмі чытачы "Каталіцкага Весніка"? Адказы на гэтыя пытанні мы прапануем вашай увазе.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Анастасія Паставалава:**

– Канфлікты, канешне ж, адбываюцца. У кожнай сям'і, я лічу, адзін ці два разы, але будуць канфлікты. У мяне падобныя выпадкі здараюцца з маці. Яна настаўніца. Часам, адыходзячы на працу, яна не мые посуд, бо спазняецца. Я прыходжу дамоў раней за маці, бачу непамытыя талеркі, мыю іх. Калі маці прыходзіць, яна бачыць чысты посуд! Яна не сварыцца. Але калі я не памыю посуд, маці крычыць на мяне, кажа, што я ўжо дарослая, што магу памыць за сабою і за ёй. Некаторы час я злуюся на маці, але потым разумею, што ўсё ж не маю рацыі. Іду прасіць прабачэння. Колькі б канфліктаў у нас ні адбывалася, я першая прашу прабачэння. Але я лічу, што ў кожнай сварцы трэба разабрацца. Бо часам і дзеці таксама маюць рацыю. Заўсёды прасіце прабачэння ў бацькоў. Калі ж вы што-небудзь не так зрабілі, зноў узнікае канфлікт. Калі мы з мамай пасварымся, я стараюся вымыць посуд, падлогу, усё прыбраць. Канфлікт можа ўзнікнуць таксама ў нас праз дрэнныя адзнакі, з-за беспарадку. Патрэбна пазбягаць такіх сітуацый, якія прыводзяць да звады. Я вельмі люблю сваю маці і хачу, каб паміж намі не было непаразуменняў.



**Юлія Чакмянёва:**

– Адносіны з сынам Міцем я наладжвала з ранняга дзяцінства. Мы з сыночкам самыя блізкія сябры. Не магу ўспомніць, каб у мяне з ім былі сур'ёзныя канфлікты. Я лічу, што самае галоўнае – гэта ўзаемапаразуменне, давер, любоў. Аднойчы я сказала Міцю, што чалавеку дадзена мова, каб усё патлумачыць, што няма безвыхадных сітуацый. Трэба расказваць усё, што цябе турбуе. У гэтым хуткаплынным жыцці для мяне самае галоўнае – мой сын. Для яго я заўсёды знаходжу час, а ў адказ атрымліваю тое ж. Я прымаю сына такім, які ён ёсць, паважаю яго як індывідуальнасць. Дзеці павінны адчуваць, што іх любяць, што яны патрэбныя. Які стане дзіцё, чаго даб'ецца, як уладкуе сваё жыццё – залежыць толькі ад бацькоў.



**Вольга Лубчонак:**

– З сынамі, а іх у нас трое, не было канфліктаў. Два сыны ўжо вялікія. Мы заўсёды памяталі, што дзеці, нават самыя маленькія, – асобы. Заўсёды да іх прыслухоўваліся, любілі. Я лічу, што многіх непаразуменняў мы пазбеглі таму, што разам з дзецьмі хадзілі ў касцёл змалку. Я як маці заўсёды мела перад сабой прыклад Марыі, старалася быць падобнай да Яе. Я ўпэўнена, што канфліктаў мы пазбеглі толькі дзякуючы Пану Богу.



**Вольга Савіцкая:**

– Са сваімі бацькамі я стараюся пазбягаць канфліктных сітуацый. Але, як і ў кожнай сям'і, мы часам пераступаем мяжу разумення бацькоў і дзяцей. Як і ўсе бацькі, мая маці стараецца засцерагчы мяне ад памылак, ад няправільных рашэнняў. Пры гэтым яна імкнецца навязаць мне сваё меркаванне. Безумоўна, тое, што скажуць бацькі, вельмі важна. Але я хачу навучыцца быць самастойнай, усё паспрабаваць, спазнаць жыццёвыя паражэнні і ўздымы. Бацькі настолькі турбуюцца за мяне, што жывуць маім жыццём замест мяне. Я разумею іх. Я сама вялікая каштоўнасць для іх, але наперадзе мяне чакае самастойнае жыццё. Тады бацькі не змогуць мяне заўсёды падтрымліваць і дапамагаць. Таму я лічу, што бацькам не варта так моцна перагінаць палку. А ўвогуле ў мяне вельмі добрыя бацькі, я вельмі ім удзячная!



**Іван Васілевіч:**

– Канфлікты адбываюцца часамі з маімі сынамі. Госпад падарыў мне двух сыноў: Юру і Арцёма. Часцей за ўсё канфлікт узнікае, калі яны непаслухмяныя, не хочуць нечага зрабіць. Тады я спрабую пагаварыць з імі, нешта паабяцаць! І канфлікты адыходзяць самі. У апошні час не даводзілася сварыцца. У асноўным яны стараюцца быць паслухмянымі, і я іх вельмі люблю.



# Таямніца Крыжа

**У Полацку 26 лютага, пасля св. Імшы, у якой актыўны ўдзел прымае моладзь, адбылася "Адарацыя Крыжа".**

**с. Святлана Грэйць**, тэкст; **Аляксандра Шабунова**, фота

На супольнай малітве маладыя людзі разважалі над тэмай Вялікага Посту: як перажыць гэты час, каб ён быў карысным для духоўнага ўдасканалення, каб стаў часам узрастання ў любові да самога сябе праз разуменне ўласнай таямніцы, часам панавання над сабой і вызвалення сябе ад слабасцяў і залежнасцяў.

Але галоўнай тэмай быў Крыж. Падрыхтаваныя разважанні і спевы дапамаглі паглыбіцца ў таямніцу Крыжа. Бо гэта не толькі сімвал – гэта вера, надзея і любоў, гэта наша Евангелле, гэта знак паяднання, гэта перамога жыцця над смерцю. Крыж павінен быць галоўным элементам у жыцці кожнага хрысціяніна. Нездарма Хрыстус кажа, што калі хтосьці хоча ісці за Ім, то няхай бярэ свой крыж і ідзе, бо немагчыма прымаць Хрыста без Крыжа.

Важным момантам падчас адарацыі з'яўляецца стан цішыні. Кожны можа прыгадаць зробленыя пастанаўленні і паразважаць над таямніцай Крыжа ва ўласным жыцці.

Сустрэча закончылася малітвай праслаўлення. Удзячныя Пану Богу за таямніцу Крыжа маладыя людзі прасілі Яго аб ласцы веры, аб імкненні да навяртання, да змянення свайго жыцця на лепшае, каб кожны быў жывым сведкам Евангелля ў сучасным свеце.



# ЧАС ДЛЯ БОГА



**Хрысціянская традыцыя раіць нам прысвяціць нядзелю Богу і сям'і. Такім чынам падкрэсліваецца яе асаблівае значэнне. Аднак, на жаль, нядзеля зараз пачынае нагадваць звычайны дзень. Пакінутая на "потым" праца ўсё часцей выконваецца менавіта ў нядзелю. Часам успрымаем гэты дзень проста як вольны ад заняткаў, зусім забываючы пра Бога.**

**с. Марына Брылёнак**

"Памятай дзень святы святкаваць" – так гучыць трэці Божы Загад. Бог даў Дзесяць Запаведзяў на гары Сінай, на каменных скрыжалях. Але таксама запісаў іх у сэрцы кожнага чалавека. Стварыўшы свет і людзей, як кажа Святое Пісанне, за шэсць дзён, Бог сцвердзіў: усё, што Ён учыніў, было добрае. Таму сёмы дзень Бог паблагаславіў і зрабіў святым. З іншага боку, нядзеля для нас – гэта дзень Уваскрашэння Езуса. Дзень удзячнасці за нашае збаўленне.

Святкаванне нядзелі і ўрачыстасці злучана з пашанай самога Бога. У чыім сэрцы ёсць любоў да Стваральніка, той шануе святы дзень. Гэта можна параўнаць з адзначэннем розных памятных падзей, якія датычаць блізкай нам асобы (дзень нараджэння, гадавіна шлюбу і г. д.), бо так праяўляецца наша любоў да гэтага чалавека. Таксама і ўшанаванне Бога ў нядзелю з'яўляецца сведчаннем нашай веры. Бог клапоціцца пра чалавека і таму дае яму час на адпачынак і малітву. Чалавек паводле сваёй натуры прагне перапынку ад працы, каб прысвяціць сябе сям'і і наблізіцца да Бога. Без належнага святкавання нядзелі цяжка знайсці сапраўднае шчасце. Адпачынак бачыцца прыемным і патрэбным, а праца патрабуе высілкаў. Таму, бадай, гэты наказ самы лёгкі да выканання. Тое, што Бог дае нам дзень для адпачынку, і ёсць праява Яго любові да чалавека.

Але што з'яўляецца самым галоўным у святкаванні дня Пана? Нядзеля – гэта дзень радасці і любові, дзень ласкі і адначасова дар Божы, які кожны павінен перажываць у еднасці з Уваскрослым Хрыстом падчас Эўхарыстыі. А тое, што гэты дзень вольны ад працы, дапаможа знайсці час на сустрэчу з Богам. Святкаванне нядзелі ў сям'і павінна спрыяць еднасці усіх яе членаў. Менавіта ў гэты вольны ад працы дзень чалавек можа адкрыць сваё сэрца для іншага, напрыклад, адведаўшы хворага знаёмага альбо самотнага ці старэйшага суседа… Калі ж чалавек забірае ў Бога гэты адзіны дзень і выкарыстоўвае дзеля працы, то ён проста адварочваецца ад свайго Стваральніка. Бог прагне, каб чалавек, які ўвесь тыдзень цяжка працуе і жыве праблемамі, хоць у нядзелю сустрэўся з Ім. Каб затрымаўся і задумаўся, да чаго ён імкнецца, каб праз удзел у Святой Імшы набраўся духоўнай моцы на наступны тыдзень працы. Ніхто не ведае, што яго чакае, і таму мы давяраем усё Богу. Бо Ён заўсёды падтрымае, дапаможа вярнуць надзею і знойдзе найлепшае выйсце для нас з найцяжэйшай сітуацыі.

Цяжкім грахом з'яўляецца добраахвотнае ігнараванне ўдзелу ў нядзельнай Ахвяры Хрыста. Можна сказаць, што чалавек уласнымі рукамі парывае сувязь з Богам. Людзі, якія так ігнаруюць Хрыста, ужо ступілі на шлях, дзе няма ані веры, ані любові. Многія тлумачаць свае такія паводзіны несур'ёзна, нават смешна. Кажуць, што Бога маюць у сэрцы і не патрэбна ім хадзіць у касцёл на Святую Імшу. Калі Богу гэта "не так ужо і патрэбна", то навошта Езус застаўся з намі ў Найсвяцейшым Сакраманце, пад выглядам хлеба? Навошта падчас Апошняй Вячэры ўстанавіў сакраманты Пакаяння і Эўхарыстыі? Можа, для таго, каб евангелістам было што запісаць? Канешне ж, не! Адказ вельмі просты і знаходзіцца ў Святым Пісанні, варта задумацца над ім. Езус кажа :

*«Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, мае жыццё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень. Бо Цела Маё — праўдзівы спажытак, а Кроў Мая — праўдзівы напой. Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, трывае ўва Мне, а Я ў ім. Хто спажывае гэты хлеб, будзе жыць навекі» (Ян 6, 54-56,58b)*

Вялікую адказнасць бяруць на сябе бацькі, калі без сур'ёзнай прычыны прапускаюць нядзельную Эўхарыстыю, даючы дрэнны прыклад сваім дзецям, а таксама не выконваючы дадзенае Богу абяцанне падчас іх хросту: выхоўваць дзяцей у веры. Тут заклік да ўсіх бацькоў, бо менавіта вы з'яўляецеся першым і самым галоўным аўтарытэтам для сваіх дзяцей! Не ігнаруйце іх рэлігійнага выхавання. Дапамажыце сваім дзецям стаць на шлях веры, які вядзе да еднасці з Хрыстом. Бо ўсё прамінае, але Бог заўсёды ёсць і чакае! Менавіта ад таго, якія маральныя і духоўныя каштоўнасці вы ўкладзяце ў іх сэрца, залежыць будучыня вашых дзяцей, і ваша таксама!.. Але няшмат карысці для дзяцей, калі бацькі іх насілу высылаюць на Імшу, а самі не ідуць. Напэўна, большасць з іх ахвотна б пайшлі разам з бацькамі.

Вернікі, што з-за хваробы, сталага ўзросту ці іншых сур'ёзных прычын не могуць прысутнічаць на нядзельнай Эўхарыстыі, павінны стварыць сабе ўмовы для сустрэчы з Хрыстом праз малітву або чытанне Біблії. Вялікай дапамогай у перажыванні нядзелі як святога дня для такіх людзей з'яўляецца Эўхарыстыя, каторую можна праслухаць і духоўна перажыць па радыё ці тэлебачанні.

Варта задумацца над прычынамі, з-за якіх людзі найчасцей не прымаюць удзел у нядзельнай Імшы. Гэта можа быць, напрыклад, камфортны адпачынак у ложку, прагляд тэлепраграм, гульня на камп'ютары, канцэрт, наведванне гасцей альбо паездка на рынак… На жаль, для многіх гэтыя рэчы і розныя здарэнні – важнейшыя за сустрэчу з Богам. Вера ў такіх людзей становіцца ўсё слабейшая, а як няма веры, то навошта прымаць сакраманты? Чалавек адкідвае Бога, разлічваючы толькі на сябе, толькі на тое, што прамінае. Не задумваецца пра сваю душу, якая будзе жыць вечна. Але калі чалавек, наадварот, прагне Бога, умацоўвае сваю веру, то прыходзіць да касцёла, каб сустрэцца са сваім Збаўцам. Каб у супольнасці з іншымі вернікамі дзякаваць, прасіць прабачэння і ўзносіць просьбы да таго, Хто з'яўляецца найважнейшым у іх жыцці.

Нам шмат трэба прыкласці намаганняў, каб убачыць любоў і клопат Бога пра чалавека, які ёсць у трэцім Наказе: "Памятай дзень святы святкаваць!". Калі мы прагнем павялічваць сваю любоў і веру да Бога, то спачатку трэба навучыцца шанаваць святы дзень.

Нядзеля – гэта дзень Пана, дзень адпачынку, радасці і любові, што перажываецца ў сям'і. Але галоўным з'яўляецца супольны час, прысвечаны для Бога на Святой Імшы!



# Сустрэча "сваякоў"

Кожны год у Камайскім касцёле праходзіць пад пэўнай намінацыяй. Напрыклад, 2006-ы быў прысвечаны паэту-святару Казіміру Сваяку (кс. Канстанціну Стаповічу), які пачынаў святарскую дзейнасць у нашым касцёле ў 1915-1916 гадах. З той пары завязаліся "сваяцкія" адносіны з вернікамі Клюшчанскай парафіі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці – роднай парафіі К. Сваяка, з цікавымі людзьмі ўсёй Астравеччыны і нават з жыхарамі іншых куточкаў Беларусі. Добрым сябрам стаў прафесар з Мінска Адам Мальдзіс, які цікавіцца жыццём парафіі, шмат піша пра касцёл. Ён падарыў бібліятэчку кніг і партрэт Ф. Скарыны.

Сёлетні год прысвечаны ўшанаванню памяці блаславёнага кс. Ежы Папялушкі. Так супала, што 19 лютага – дзень нараджэння К. Сваяка і дзень смерці бл. Ежы Папялушкі. Абодва святары, абодва пражылі па 36 гадоў.

На сустрэчу былі запрошаны госці з Астравеччыны і з Мінска. Пасля ўрачыстай св. Імшы адбылася святочная імпрэза, якую вяла пляменніца К. Сваяка Іаланта Валцэвіч. У канцэрце ўпершыню прагучала песня К. Сваяка на музыку яго брата Альбіна Стаповіча"Благаславёны", якую выканалі студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Даша Іванова, Даша Сяргей і Вера Міхалевіч. Акампаніраваў на гітары кампазітар і спявак Максім Іўкін. Як прыгожа спявала моладзь! Даша Іванова выканала яшчэ свае песні "Малітва" і "Мара". Спеўная група выканала песню "Дубравушка", запісаную ад маці беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Выступалі госці з добрымі словамі і пажаданнямі, уручалі падарункі. Паэт з Камаяў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Аркадзь Нафрановіч прачытаў некалькі сваіх вершаў. Першая частка ўрачыстасці закончылася спевам гімна "Магутны Божа".

Сустрэча прадоўжылася ў парафіяльным доме за кубкам гарбаты. Там зноў чыталіся вершы, спяваліся розныя песні, вялася нязмушаная гутарка.

Такія сустрэчы ў нашым касцёле адбываюцца кожны год. Яны запамінаюцца ўдзельнікам на ўсё жыццё. Як многа ў нас у Беларусі шчырых, прыгожых душою, таленавітых людзей! Якая ж мы багатая нацыя!

Мы вельмі ўдзячныя нашаму пробашчу кс. Яцэку Хутману, які так шмат робіць для духоўнага і матэрыяльнага адраджэння касцёла і парафіі, умее з'яднаць блізкіх па духу людзей, сам з'яўляецца душой супольнасці. Хай яму добра жывецца і лёгка працуецца ў нашай парафіі яшчэ доўга-доўга, хай у яго збываюцца ўсе прыгожыя планы і задумы, а Маці Божая няхай ахінае любоўю і ласкаю.

***Генавефа Дубіловіч,***
*в. Муляры*

# Неадпушчаны грэх

**Наша чытачка Алёна Грыбко з Парыжа запыталася, у якіх выпадках святар не можа адпусціць грэх верніку? Ад чаго гэта залежыць? На пытанне адказвае пробашч парафіі ў Падсвіллі кс. Андрэй Кулік.**

З падрыхтоўкі да Першай Споведзі і Св. Камуніі мы памятаем, што для таго, каб годна паспавядацца і прыняць Цела Хрыста, трэба выканаць пэўныя ўмовы, г.зн. быць гатовым не толькі прызнацца ў граху, але і пастанавіць адкінуць грэх як перашкоду на дарозе да Бога. Калі звернемся да старонак Евангелля, то ўбачым, што Езус, адпускаючы грахі, казаў: ”Ідзі і больш не грашы”(пар. Ян 8,11). Такім чынам, нам выразна абазначана воля Езуса, які жадаў, каб чалавек змяніў свой папярэдні, грэшны стыль паводзінаў і пад ўздзеяннем Божай ласкі распачаў новае жыццё. І вось мы прайшлі катэхізацыю, чытаем Евангелле, слухаем казанні – мы ведаем, як трэба рабіць. А як жа ёсць на самай справе?

Набліжаецца перыяд Вялікага Посту. У касцёле святары гавораць нам пра патрэбу пакаяння і навяртання да Бога, заахвочваюць прыступаць да споведзі. Мы сумленна выконваем абавязак спавядацца, прынамсі, раз у год і ў велікодны перыяд прымаць Святую Камунію. Цярпліва чакаем сваёй чаргі, каб на некалькі хвілін пабыць у ролі малога дзіцяці, якое будуць дакараць за дрэнныя паводзіны. Часам здаецца, што гэта гульня ў ката і мыш, умовы якой задавальняюць абодва бакі. Дык што ж адбываецца падчас споведзі, чаму яна такая важная для нашага рэлігійнага жыцця і навошта абяцаць выправіцца у будучым, калі спавядаюся з таго, што было ў мінулым?

Каб даць адказ на пастаўленыя пытанні, кожны павінен усвядоміць сабе, што ў споведзі мы закранаем справу свайго асабістага бунту супраць Бога, якую інакш называем грахом. Праблема для чалавека не новая, яна існуе літаральна ад Адама і Евы, аднак шлях яе вырашэння кожны павінен прайсці асабіста. Між іншым, грахом называецца недахоп сапраўднай любові да Бога і бліжняга, праз заганную прывязанасць да некаторых дабротаў. Ці пыталіся вы часам у сябе, чаму вось ужо колькі гадоў мае грахі не мяняюцца? Не мяняюцца настолькі, што мая споведзь нагадвае завучаную формулу. З гадамі іх становіцца толькі больш, мае грахі “растуць” разам са мной, і вось я ўжо дарослы з “дарослымі” грахамі.



Вернемся зараз на некалькі радкоў вышэй, дзе мы спрабавалі акрэсліць, чым ёсць грэх, і скажам сабе, што так адбываецца таму, што я прывязаны да граху. Больш за тое, я люблю свой грэх! Споведзь – гэта не толькі дакладнае вызначэнне сваіх грахоў і пералічэнне іх колькасці. Споведзь – гэта таксама жаль, што я не люблю Бога і недастаткова люблю бліжняга свайго, а што за гэтым ідзе – пастанова, жаданне выправіць зло ў сваім жыцці. Калі гэтага няма, калі я не хачу больш не грашыць, мая споведзь не будзе сапраўдным актам пакаяння і прымірэння з Богам. Яна не важная, а прынятая пасля яе Камунія будзе чарговым цяжкім грахом! Так адбываецца, калі пэнітэнт наўмысна затаіць цяжкі грэх або падмане спаведніка.

Умовай добрай споведзі з`яўляецца таксама выпраў-ленне крыўдаў, нанесеных Богу і бліжняму. Мой грэх нішчыць не толькі мяне, маё сумленне, ён мае, так бы мовіць, таксама знешнія наступствы – у адносінах да чалавека, якога я пакрыўдзіў.

Аборты, крадзяжы, абмовы, іншыя грахі, што закранаюць жыццё, годнасць ці маёмасць нейкай асобы, патрабуюць максімальна магчымага выпраўлення. Таму т.зв. пакутай за грахі павінна быць не толькі малітва, але і ўчынкі хрысціянскай міласэрнасці ў адносінах да пакрыўджанай асобы, імкненне аднавіць добрае імя чалавека, якога я абгаварыў ці падмануў. Калі ж гэта немагчыма, напрыклад, у выпадку граху аборту, тады варта дапамагчы дзіцячым дамам, бедным сем`ям.

Многія з вас, можа, здзівяцца, але не кожная споведзь можа скончыцца адпушчэннем грахоў. Часцей за ўсё датычыць гэта т.зв. грамадзянскіх шлюбаў, а таксама тых, хто, нават не жывучы разам, мае трывалыя сувязі, парушаючы шостую запаведзь. Калі людзі не маюць намеру гэта змяніць, значыць, у іх няма жадання выправіцца і, адпаведна, няма падстаў, каб грэх быў адпушчаны. Адпушчэнне граху залежыць не ад яго цяжару, але ад жалю за грэх. Калі чалавек шкадуе, Бог прабачае яму. Акрамя таго існуюць грахі, якія не кожны святар і не ў кожнай сітуацыі можа адпусціць, а толькі біскуп. Ёсць нават такія грахі, па адпушчэнне якіх трэба звяртацца ў Апостальскую Сталіцу! Да першых належыць фармальнае адрачэнне ад веры, аборты, напад ці забойства біскупа, спроба цэлебраваць св. Імшу ці спавядаць асобай, якая не атрымала святарскага пасвячэння, прыналежнасць да арганізацый, што пераследуюць Касцёл. Да грахоў, што не можа адпусціць святар і нават біскуп, належыць, між іншым, знявага Найсвяцейшага Сакраманту, напад ці забойства Рымскага Папы, здрада таямніцы споведзі святаром.

Трэба сказаць, што хрысціянства – гэта не толькі збор наказаў і забаронаў, якія знеахвочваюць нас, прыгнятаюць сваёю шматлікасцю ці здаюцца многім перажыткам сівой даўніны. Хрысціянства – гэта стыль жыцця, сутнасцю якога з`яўляецца наказ, сфармуляваны яшчэ ў Старым Запавеце і паўтораны Хрыстом: любі Бога і любі бліжняга свайго (пар. Мц. 22,37-40). Ідучы за гэтым наказам, мы імкнёмся развіваць у сабе перакананне, што Бог не толькі дае нам Запаведзі, але і дапамагае нам іх захоўваць. Таму, нягледзячы на шматлікія недахопы і слабасці, якія, зазірнуўшы ў сябе, кожны з нас знойдзе, хочам верыць, што ў маім жыцці дабро пераможа зло. Прыклад шматлікіх святых, якім гэта ўдалося, заахвочвае нас да штодзённага змагання, а словы св. Паўла: “усё магу ў тым, які ўзмацняе мяне”(Флп. 4,13) умацоўваюць надзею на тое, што і я змагу не толькі захапляцца прыкладам іншых, але і ісці іх слядамі.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**18 сакавіка 2012 г. Ян 3,14-21**

Смерць Езуса была неабходнай для нашага жыцця. Яна вызваліла нас ад граху і ад вечнай смерці. Езус ратуе нас ад укусаў зла. Вера ў Езуса – гэта дарога да Вечнага жыцця. Езус прыйшоў, каб збавіць нас. Трэба паверыць у Езуса і ў Яго ролю ў нашым жыцці. Трэба палюбіць Яго замест цемры грахоў. Пошукі праўды і святла – гэта дарога да жыцця. А любоў да цемры, падману і грэху – гэта дарога да пекла.

*– Ці ўсведамляю, што маё ўратаванне ў Езусе?*

*– Калі гляджу на крыж, ці бачу на ім Бога, Які хоча мяне збавіць?*

*– Ці заўважаю небяспеку ўкусаў шатана?*

*– А можа, думаю, што, укушаны, не памру і не хачу зразумець, да чаго прыводзіць укус грэху?*

*– Якая мая сувязь з Езусам?*

*– А можа, спрабую давесці Богу і свету, што Збаўца – я сам і што я бязгрэшны?*

*– Ці жыву ў праўдзе?*

*– Ці прыдумваю ілюзіі і тлумачэнні, абы толькі не даверыцца Езусу?*

*– Ці шукаю праўды і святла на дарозе свайго жыцця?*

**25 сакавіка 2012 г. Ян 12,20-33**

Смерць Пасха Езуса – не з’яўляецца бессэнсоўнай. Яна прыносіць плён збаўлення для ўсіх нас. Хоць і выглядае пройгрышам, але гэта перамога. Трэба нам навучыцца глядзець на сваё жыццё збоку. Трэба, каб мы палюбілі Езуса і з Ім звязалі сваё жыццё. Для многіх гэта можа выглядаць так, быццам мы змарнавалі сваё жыццё. Але толькі з Езусам можам зрабіць сваё жыццё змястоўным і пераможным. Рашэнне аддаць сваё жыццё Езусу будзе мець наступствы ў вечнасці. Гэта рашэнне павінен прыняць сёння. Трэба сказаць: “Езус – мой Пан. Хоць на крыжы, але пераможца. А я хачу прайсці праз жыццё, як Ён, і разам з Ім”.

*– Дзе шукаю сэнсу жыцця?*

*– Ці ведаю, што Езус, паслухмяны Айцу, перамог?*

*– Ці ўмею адарвацца ад празмернай прывязанасці да гэтага свету?*

*– Якія каштоўнасці важныя ў маім жыцці, а якія – не вельмі?*

*– Ці змагу аддаць у Божыя рукі сваё жыццё?*

*– А можа, гэта я хачу кіраваць Богам і праз Яго сваім жыццём?*

*– Ці давяраю Яму?*

*– Ці прызнаю Езуса сёння за свайго Пана?*

*– А можа, хачу зрабіць з Яго “хлопчыка на пабягушках”?*

*– Ці хачу быць паслухмяным, бо веру, што толькі з Ім перамагу?*

**1 красавіка 2012 г. Мк 15,1-39**

Шмат гаротных здарэнняў і многа асобаў з’яўляюцца ў сённяшнім Евангеллі. Прызвычаеныя да цярпення і пакут, мы навучыліся выключаць нашу ўражлівасць. Бездапаможныя, мы ўцякаем ад гэтых здарэнняў, каб абараніць сябе ад непрыемнага пачуцця віны. Аднак гэтая смерць і гэтае цярпенне датычаць кожнага з нас. Гэта Ён – Бог – паслухмяны Айцу аж да смерці. Да смерці ваюе за кожнага з нас.

*– Да якой асобы з сённяшняга Евангелля падобны я?*

*– Да чаго гэта можа прывесці?*

*– Ці разумею, што на крыжы адбываецца перамога і над маёй бядой?*

*– Ці чарговае свята не буду перажываць абыякава?*

*– Хіба гэта іншыя павінны задумацца, заплакаць, памаліцца, пасціць, паспавядацца?*

*– Можа, чарговы раз затрымліваюся на тым, што знешняе, павярхоўнае?*

*– А можа, гляджу на здарэнне з Езусам, як гляджу фільм жахаў?*

*– Узіраюся ў кроў, што сплывае з ран, у цела, разараванае бічом, але забываю пра асобу Езуса?*

*– Можа, так уражаны цярпеннем Езуса і страхам перад сваімі ранамі, што нічога больш не заўважаю?*

*– Ці злучаюся з Езусам у Яго цярпенні?*

*– Ці пытаюся ў Яго пра сэнс свайго Цярпення?*

*– Ці гатовы я выканаць волю Айца так, як Езус, аж да смерці?*

*– Ці памятаю, што гэта Ён збаўляе, а я павінен удзельнічаць у Яго справе збаўлення?*

**8 красавіка 2012 г. Ян 20,1-9**

Змёртвыхпаўстанне Езуса – гэта перамога. Гэтая перамога Хрыста здзейснілася ў таямніцы. Чалавек не можа зразумець усяго і адразу. Мы маем свята Святога Духа, якога чакалі апосталы. Але і мы павінны вучыцца слухаць голас Божага Духа. Аднак часта ўпарта трымаемся сваіх перакананняў, свайго асабістага бачання рэчаіснасці. Так прывязваемся да свайго разумення жыцця, што не хочам прызнаць: для Бога ўсё магчыма. Хочам бязмежнага Бога абмежаваць граніцамі нашай людской мудрасці. Аднак Бог – гэта таямніца, якая нам адкрываецца. Ян убачыў і паверыў, бо бачыў далей, бо меў уражлівага духа.

*– Як я гляджу на Божыя справы ў маім жыцці?*

*– Ці ведаю і веру, што Езус жывы?*

*– Ці разумею, што гэта – асноўная праўда веры?*

*– Ці змагу паглядзець глыбей і ўбачыць Божыя справы ўва мне і ў свеце?*

*– Ці разумею Божыя знакі так, як Святы Ян, што змог зразумець сэнс пустой труны і пакінутых палотен?*

*– Ці збіраюся перажыць гэту Пасху інакш, чым заўсёды?*

*– Ці хачу аднавіць сваю сувязь з жывым Езусам?*

*– Што для гэтага збіраюся зрабіць?*

*– Ці прызнаю, што Бог – гэта таямніца, для спазнання каторай Ён мяне асабіста запрашае?*

*– Ці маю з Ім асабісты кантакт на малітве?*

*– Ці пытаюся ў Яго і ці шукаю адказаў у Яго Слове?*

*– Ці прашу Святога Духа, каб дапамог мне зразумець тое, што Бог хоча, каб я зразумеў?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# ЗАПРАШАЕМ ДА РАДЫЁ!



**Дарагія сябры! У вернікаў Віцебскай дыяцэзіі ёсць унікальная магчымасць не толькі чытаць Добрую Навіну, але і слухаць яе!**

**"Слова да вернікаў"** — пад такой назвай выходзіць каталіцкая перадача на Віцебскім абласным радыё. Яе вядзе **дыякан Валерый Марціноўскі**.

У перадачы гучаць разважанні над Божым словам, каментары да Каталіцкага Катэхізіса, паглыбляецца навучанне Касцёла.

**"Слова да вернікаў"** можна пачуць кожную пятніцу ў прамежак часу паміж 18.30 – 19.00 на наступных хвалях:

Віцебск —70.67 FM 100.5
Ушачы — 72.65 FM 106.7
Браслаў — 69.08 FM 105.7
Орша — 67.85 FM 107.0
Асвея — 103.5 FM
Бычыха — 101.0 FM
Відзы — 72.80 FM

**Слухайма Божае слова!**

# Благодарность пилигримам

**18 февраля в Росицком костёле Святой Троицы прошли торжественные богослужения в память о блаженных мучениках Антонии Лещевиче и Юрии Кашира, а также о жителях Росицы и окрестных деревень, заживо сожжённых в пламени адского огня в суровые февральские дни 1943 года.**

Выражаем сердечную благодарность всем духовным отцам, которые приехали принять участие в проведении богослужений и отдать низкий поклон всем жертвам фашизма у креста общей могилы.

Глубокая благодарность всем пилигримам из разных уголков Беларуси, которые, не страшась сильного мороза, приехали помолиться. Да воздаст им Господь во стократ за их добрые сердца и настоящую веру, за любовь ко всем невинно погибшим в пламени огня. Да пошлёт им всем Господь Свою милость и помощь и хранит их на всех путях!

Моя молитва за всех отцов духовных и всех пилигримов.

*Валентина Марцинкевич, инвалид II гр., бывшая узница концлагеря Саласпилс*

## Священникам-мученикам Антонию Лещевичу и Юрию Кашира

*К тебе, Господь наш, припадаем,*
*Лишь поутру взойдёт заря,*
*Тебя смиренно умоляем*
*О верных слугах алтаря.*

*Средь многих сыновей народа*
*Ты их таинственно избрал.*
*И от заката до восхода*
*С Благою Вестью их послал.*

*Ни труд, ни беды, ни тревоги*
*Их светлый ум не омрачали,*
*Любовь, надежда, вера в Бога*
*В их тихом голосе звучали.*

*Когда эсэсовцы свершали*
*Суровый приговор войны,*
*Люди живьём в огне сгорали,*
*Средь них – духовные отцы.*

*Все шли в последнюю дорогу,*
*На место казни шли без слёз.*
*С молитвой искреннею к Богу,*
*Как на Галгофу шёл Христос.*

*Хоть им свободу предложили*
*Войны суровой палачи,*

*Но они жизнь отдать решили,*
*Чтоб боль людскую облегчить.*
*В сарай большой людей согнали*
*В морозный день на склоне дня.*
*Там плач и стоны раздавались*
*Из пламя адского огня.*

*Кто из огня бежать решались,*
*Стараясь жизнь свою спасать,*
*По ним эсэсовцы стреляли*
*Бросали всех в огне пылать…*

*Подай им руку, Матерь Божья,*
*Пусть подвиг их увидит Бог.*
*А мы положим к их подножью*
*Молитвы наши, как цветок.*

*И песнь святого вдохновенья*
*Пусть ангелы поют для них.*
*А наш Господь любвеобильный*
*Зачислит их в число святых.*

*И пусть хор ангельский небесный*
*Поёт им непрестанно гимн.*
*Ты наш Господь – Отец Чудесный*
*На веки вечные. Аминь.*

*Валентина Марцинкевич*

# ЛЫНТУПЫ ЗАПРАШАЮЦЬ!



Чарговы раз у нашай парафіі будзе адбывацца містэрыя Мукі Панскай. Распачнецца яна, як заўсёды, каля касцёла ў Вербную нядзелю а 16-й гадзіне. Першыя некалькі стацый ідзём за крыжам па дарозе, разважаючы над Мукай Пана. Апошнія стацыі назіраем у пастаноўцы лынтупскіх парафіян. Містэрыя кожны год збірае ўсё большую колькасць вернікаў. І з кожным разам становіцца ўсё больш глыбокім духоўным вопытам. Верым, што і сёлета, з Божай волі, падзея будзе мець пабожны характар. Сардэчна запрашаем чытачоў "Каталіцкага Весніка" наведаць нашу парафію Святога Апостала Андрэя, якая знаходзіцца ў Пастаўскім раёне ў вёсцы Лынтупы, прыняць удзел у Крыжовым шляху і на свае вочы ўбачыць тэатралізаванае відовішча. Хвала Хрысту!

*Вернікі парафіі ў Лынтупах*

## Езус у самоце

*Я бачу Цябе, Пане, у самоце,*
*Сядзіш Ты на каменьчыку ў далечы.*
*Нясеш Сваё цярпенне ў адзіноце,*
*Цяжар грахоў людскіх узяў на Свае плечы.*

*За ўсе нашы грахі на адкупленне*
*Зямныя даў Айцец выпрабаванні,*
*Пакінуў аднаго ў гэтым цярпенні,*
*Каб паказаў нам шлях да ратавання.*

*І толькі горы, хмаркі размаўляюць,*
*Схіляюцца да Сэрца Твайго, Пане.*
*Яны нібы ў Цябе пытаюць,*
*Які цяжар нясеш у гэтым стане?*

*Закрыты Твае вусны для размовы,*
*Цячэ толькі малітва ў вышыні.*
*Ты Сэрцам прамаўляеш Свае словы,*
*І чуе ў небе Айцец Свайго Сына.*

*Ты ратаваў нас блудных і бязбожных,*
*Ты сорак дзён пасціўся ў пустыні,*
*Маліўся да Айца Свайго дзень кожны*
*За нашыя грахі і ўсе правіны.*

*Часлава Тамашэўская*

## Віншуем!

Ад імя парафіянаў парафіі Маці Божай Каралевы Кароны Польскай у Порплішчы і парафіянаў касцёла Сэрца Пана Езуса ў Круляўшчызне хочацца павіншаваць нашага дарагога ксяндза Юрыя Бараўнёва. 23 красавіка ў яго Дзень народзінаў і Дзень Анёла. У нашых парафіях кс. Юрый працуе з 2005 года. Гэта сапраўды святар ад Бога. За гэты час нашы касцёлы набылі вельмі прыгожы выгляд. Мы шчыра дзякуем кс. Юрыю за яго працу, старанне, вытрымку, цярпенне, дабрыню да ўсіх людзей. Няхай Усемагутны Бог адорыць яго моцным здароўем, дапамагае ў святарскай працы, кіруе яго задумамі, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы. Мы, парафіяне, памятаем пра кс. Юрыя ў сваіх штодзённых малітвах. Таксама хочам падзякаваць маме кс. Юрыя і кс. Сяргея Галіне Бараўнёвай за выхаванне такіх самаахвярных сыноў. Жадаем ёй моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця на радасць усім.

*Нарбэрта Камянецкая*

## Развітанне з айцом Томашам Юньчыкам

*Паштоўку адсылаем у канверце.*
*На ёй – хіба з дзясятак слоў:*
*"Наш ойча, ты найлепшы ў свеце!*
*Прымі ж ад нас удзячнасць і любоў."*

*Падзякі прамаўлялі сто разоў,*
*Ліліся слёзы – не маглі спыніцца…*
*Мы вочы паднялі да абразоў*
*І пачалі па-ціхеньку маліцца:*

*"Наш Божа, мы ўдзячныя Табе*
*За тое, што жывём на гэтым свеце,*
*За дні шчаслівыя і дні ў журбе,*
*За веру, што ў сэрцах застаецца."*

*Вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў в. Ваўкалата*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2096

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.03.2012 г. у 18.24

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ